Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ – БАРАНАВІЧЫ – БЯРОЗА

# Газета для вас

6 верасня 1997 года

СУБОТА

№ 47

Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1.000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Прыватызаван "модны" аб'ект

**БАРАНАВІЧЫ.** На 23-м аўкцыёне малой прыватызацыі, арганізаваным гарвыканкамам пры тэхнічным садзеянні кансультантаў Міжнароднай фінансавай карпарацыі, камерцыйная фірма „Бонус" выйграла спрэчку паміж трыма ўдзельнікамі таргоў за краму „Мода" па вул. Камсамольскай і выклала 290 мільёнаў рублёў. „Мода", размешчаная на першым паверсе жылога дома, перадаецца новаму ўладальніку на 15 гадоў у арэнду з правам выкупу.

На рэстаран „Свіцязь", таксама выстаўленым на таргі, знайшоўся толькі адзін пакупнік. Але па правілах аўкцыёну адной заяўкі недастаткова для продажу аб'екта. Аднак падчас наступных таргоў ён можа быць прададзены і аднаму заяўніку. Пабачым.

### Бундэсвер прашчупаў

На Брэстчыне працавала група нямецкіх ваенных інспектараў, якія прыбылі ў адпаведнасці з палажэннямі Венскага дакумента 1994 года па мерах умацавання даверу і бяспекі. Узначальваў групу палкоўнік фон Блок.

Ваенных спецыялістаў сустракалі ў Брэсце, Кобрыне, Ружанах, Пружанах, а таксама ў Дамачаўскім гарнізоне. Немцы цікавіліся відамі ўзбраення, вучобай і бытам салдат.

● ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ

### Швачка Таццяна Пяціна

*__ІВАЦЭВІЧЫ.__ Таццяна Іванаўна Пяціна працуе швачкай у цэху мяккай мэблі акцыянернага таварыства „Косаўскае мэблевае вытворчае аб'яднанне". А ў калектыве мэбельшчыкаў амаль 15 гадоў. У цэху ўстаноўлена новае абсталяванне, асвоены новыя віды прадукцыі – двухбаковы матрац. У тым, што на гэтую прадукцыю вялікі попыт, значная заслуга Таццяны Пяцінай, якая пастаянна дбае пра якасць.*

***НА ЗДЫМКУ: Т. І. Пяціна за работай.***

***Фота А. ГАНЧУКА.***

### Получай, деревня, сеялки!

**БЕРЁЗА.** Комбикормовый завод, взяв кредит, закупил 16 пневматических сеялок у завода „Лидсельмаш" и передал новую технику хозяйствам района. Поскольку денег от колхозов не дождёшься, завод согласился на то, чтобы они рассчитывались зерном нового урожая. Заводчанам это выгодно, ибо зерно – основное сырьё для производства кормов.

### Ад уніформы да касцюмаў

**БАРАНАВІЧЫ.** З таго часу, калі швейная фабрыка імя С. Грыцаўца асвоіла выпуск школьнай формы для хлопчыкаў, пашыта 570 тысяч камплектаў. З году ў год цэны на гэтую неабходную вопратку імкліва раслі. Маламаёмным сем'ям яны сталі не па кішэні.

Канструктары і тэхнолагі прадпрыемства шмат зрабілі для таго, каб адзенне для рабят заставалася элегантным і танным. Цяпер можна сказаць – яны дабіліся свайго. Хлапчуковыя касцюмы зноў даступныя па кошту і ідуць нарасхват. Сёлета фабрыкай пашыта больш за 33 тысячы касцюмаў, перададзеных у гандлёвую сетку. Попыт не зніжаецца.

### Дазвольце нам свіснуць

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Не здзіўляйцеся, паважаныя чытачы, гэтаму загалоўку. Ведаеце, як у нядаўнія савецкія часы пісалі і заканчвалі свае артыкулы карэспандэнты газетаў? Не ведаеце, не ўспомнілі? Ну, дык мы нагадаем вам на простым прыкладзе.

Ідзе, напрыклад, карэспандэнт „Івацэвіцкага весніка" па вуліцы Леніна ў Івацэвічах і бачыць, што каля аднаго з дамоў нехта вядро смецця ці то высыпаў, ці то падгроб з дарогі. Прыходзіць ён у рэдакцыю і піша артыкул аб нядбайных людзях, якія горад засмечваюць. А ў якасці прыклада з абурэннем паведамляе чытачам, што на вуліцы Леніна (!) ляжыць куча смецця. А ў канцы гэтага важнага артыкула дае папераджальны свісток: „І куды глядзіць толькі гарсавет?"

Па такому плану пісаліся многія і многія артыкулы, нязменным заставаўся толькі гэты папераджальны свісток з рознымі варыяцыямі: „І куды глядзіць сельсавет?", „І куды глядзіць дырэктар спіртзавода?", „І куды глядзіць райвыканкам?"

Вось менавіта з апошнім („І куды глядзіць райвыканкам?") папераджальным свістком і мы вырашылі напісаць заметку. Справа ў тым, што ўжо тыдні два, як у Івацэвічах з'явілася шмат антыпрэзідэнцкіх надпісаў і лозунгаў, сярод якіх нямала проста абразлівых. Павыводзіла іх нечая рука на сценах гаражоў, крамаў, сценаў шматпавярховых дамоў. Ідуць людзі, чытаюць, смяюцца. І куды глядзіць райвыканкам?

Зрэшты, і райвыканкам зразумець можна. З аднаго боку, яму трэба пільна сачыць за рэйтынгам прэзідэнта ў раёне, дакладней не даваць яму падаць (інакш можна і сваё крэсла ў райвыканкаме страціць). А з другога боку, што тут зробіш з гэтымі пісакамі надпісаў і лозунгаў? Іх надпісы замаляваць то можна, але ж тое, што ў душах іх аўтараў ужо не замалюеш і не перакрэсліш. Ды і надпісы назаўтра зноў могуць з'явіцца.

Вось з якой нагоды захацелася нам выкарыстаць вопыт савецкай журналістыкі. А мо яе нашчадак – „Івацэвіцкі веснік" – штосьці свісне?

● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## АД СУБОТЫ ДА СУБОТЫ

### З 1 ВЕРАСНЯ ПАВЯЛІЧАНА МІНІМАЛЬНАЯ ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь з 1 верасня 1997 года павялічана мінімальная заработная плата. Яе памер будзе складаць 200 000 рублёў, а тарыфная стаўка першага разраду – 220 000 рублёў.

У сувязі з гэтым у верасні будзе зроблены пераразлік мінімальнай пенсіі. Калі раней яна складала 150 працэнтаў ад мінімальнага заробку і была роўная 225 тысячам рублёў, то зараз адпаведна складае 300 тысяч рублёў. Але вядома, што пенсіянеры-„мінімальшчыкі" атрымлівалі даплату. Дык вось зараз, разам з даплатай (а яна роўная для гэтай катэгорыі 60 працэнтам ад пенсіі), мінімальная пенсія складае 480 тысяч рублёў.

Будуць таксама павялічаны сацыяльныя пенсіі.

Працоўныя пенсіі, якія налічваюцца зыходзячы з заробку, пераразлічвацца не будуць.

### МІЖНАРОДНЫ ВАЛЮТНЫ ФОНД НЕ ПАДТРЫМЛІВАЕ „РЫНКАВЫ САЦЫЯЛІЗМ"

Супрацоўнікі прадстаўніцтва Міжнароднага валютнага фонду ў Мінску паведамілі беларускаму ўраду і, у прыватнасці, прэм'ер-міністру Сяргею Лінгу аб выніках пасяджэння кіраўніцтва МВФ, на якім разглядалася пытанне ўзаемаадносінаў МВФ з Беларуссю.

Выканаўчы савет дырэктараў МВФ, абмеркаваўшы работу ў Беларусі апошняй місіі фонду, падтрымаў ацэнку эканамічнай палітыкі беларускіх уладаў, дадзеную экспертамі. Сутнасць заключэння зводзіцца да таго, што эканамічная палітыка, якую праводзіць беларускі ўрад, не з'яўляецца той палітыкай, якую можа падтрымліваць МВФ.

### НА 8,5 ПРАЦЭНТА СТАЛА ДАРАЖЭЙШЫМ САЛА Ў ЛІПЕНІ

Спытаеце: а каўбасныя вырабы? А каўбасныя вырабы падаражэлі на 6,6%, мука – на 6,5%, мяса і птушка – на 5,6%, хлеб і хлебабулачныя вырабы, крупа, рыба, мясныя кансервы, сыр, макароны і кандытарскія вырабы – на 3%, масла, маргарын, цукар – на 1-2%. У цэлым індэкс цэн на харчовыя тавары ў ліпені ў адносінах да чэрвеня склаў 101,4%

Цэны на нехарчовыя тавары ў ліпені ўзраслі на 2,1%. За тытунёвыя вырабы прыйшлося плаціць на 9,6% болей, за гаспадарчае мыла – на 7,7%, дываны – на 5,1%, галантарэйныя тавары – на 5%, будаўнічыя матэрыялы, тканіну, ювелірныя вырабы, цацкі – на 3-4%, вопратку, посуд, мэблю, культурна-бытавыя тавары, электрапрыборы, пісьмовыя прылады, медыкаменты, тавары для спорту – на 2%.

Паслугі аховы здароўя сталі даражэйшымі на 7,9%, таксі – на 7,2%, турысцка-экскурсійныя – на 2,1%, санаторна-курортныя – на 1,4%, хімчысткі – на 9,4%, пральных і фатаграфій – на 2,5%, рамонт абутку – на 1,4%.

А вось памер рэальнай зарплаты за месяц (у чэрвені ў параўнанні з маем) павялічыўся толькі на 4,5%. Такім чынам, няцяжка ўбачыць, што значна знізіўся ўзровень жыцця толькі за адзін месяц, за ліпень. А высокія начальнікі сцвярджаюць, што дабрабыт людзей павысіўся. Хто гэтаму паверыць...

### З МЯККАГА КРЭСЛА – ЗА КРАТЫ

Восем гадоў пазбаўлення волі ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму і канфіскацыя маёмасці – такі вынік 10 месяцаў крымінальнага працэсу над былым старшынёй Лунінецкага гарвыканкама К. Нягрэем. Ён прызнаны вінаватым у тым, што, з'яўляючыся службовай асобай і займаючы адказную пасаду ў 1992 годзе, неаднаразова атрымліваў хабар, дапускаў перавышэнне ўлады і службовых паўнамоцтваў на працягу 1992-93 гадоў, а таксама складаў заведама лжывыя дакументы.

**(Па старонках незалежных газет).**

● БИБЛИЮ ЧИТАЕМ ВМЕСТЕ

# ВЕРА. НАДЕЖДА. ЛЮБОВЬ

**(Продолжение. Начало в №№ 3-45).**

Попробуйте спросить себя, дорогой читатель, верите ли вы в Бога? А затем поставьте вопрос немного иначе и спросите себя, верите ли вы Богу? Думаю, разницу между первым и вторым вопросом нетрудно уловить. В то, что Бог есть, верят многие люди. Верить же Богу – значит знать Его желания, волю, чувства. То есть, осознавать существование Бога как Личности, свою ответственность перед Ним. Тогда возникают и другие вопросы. Например, что хочет Бог; где узнать о том, что Он хочет; как отличить, действительно ли этого хочет Бог или это очередная выдумка богатого воображением человека?

Слушая размышления индуса о медитации, посредством которой якобы душа покидая тело, блуждая вне пространства и времени, может „слиться" с Самим Богом став Богом, или, услышав о чудесах буддийских ламаистов о наведении эпидемий или ураганов, использовании чудодейственных сил в исцелении неисцелимых болезней, человеку трудно разобраться в вопросах правильной веры.

Возникают предположения о правильности всех вер, религий. Иногда же, напротив, потеряв интерес, человек отрицает всякую религиозность.

Библия даёт возможность человеку достаточно полно и ясно разобраться в вопросе веры. Во-первых, необходимо верить, что Бог есть. Он – Личность, Творец, Свят (отделён от греха). Во-вторых, нужно понимать, что Бог любит нас и желает помочь нам попасть к нему, пройдя с его помощью трудный земной путь испытаний. Исходя из этого, нам необходимо понимать, что Бог не может противоречить Сам Себе, если Он истинен. Не может делать зло, если Он свят, не может говорить „запутанные", непонятные для нас истины, если любит нас и хочет помочь.

**ВЕРА.** Апостол Павел так объясняет значение слова „вера": „Осуществление ожидаемого и уверенность в невидимом".

Евреям 11:1. Размышляя о всей главе, мы понимаем, что вера – это наша жизнь (дела, поступки), построенная на слове Божием. Так как мы живём, думаем, то, о чём мечтаем, – это и есть наша вера. Например, ребёнок пришёл в школу, сел за парту и слушает урок, который ведёт опытный учитель. Ученик старается принять передаваемые ему знания, хотя слышит о них впервые. Школьник должен доверять учителю, иначе его нежелание, недоверие не принесут ему никакой пользы. Так же, если ребёнок не усвоит или неправильно применит знания, то не получит хорошей отметки и не сможет благополучно перейти в другой класс, если не усвоил по какой-либо причине знания, даваемые ему в данном году обучения. Так и вера может строиться только на правильных знаниях и доверии этим знаниям со стороны человека. Мы не знаем, что ожидает человека после смерти: что является, а что не является грехом; каков Бог; как была сотворена Вселенная; откуда взялось зло и почему оно существует до сих пор, если есть всемогущий Бог? Вопросов множество, но Бог терпеливо и достаточно рассказывает нам со страниц Библии о всём, что нас интересует, что нам действительно необходимо знать. Наша задача – стать послушными и усердными учениками. Необходимо принять знания, усвоить их и жить согласно этих знаний – это и есть правильная вера. Иисус Христос – Единственный Учитель, который никогда не ошибается (Еванг. от Матфея, 23:8). И сегодня мы видим неопровержимость Его слов. Почему же мы не делаем того, что Он говорит нам? Как же мы хотим попасть в Вечное Царство, не выучив и не сдав экзамена своему Божественному Учителю – Иисусу Христу?

Итак, вера – это прилежное применение полученных знаний, которые Иисус Христос открывает нам через свое слово (Библию). Не знать – значит не верить, не выполнять – значит не верить, не доверять – значит не верить.

**НАДЕЖДА.** Чем вера отличается от надежды? Давайте вспомним пример с учеником. Если школьник прилежно принял и усвоил знания, данные ему опытным преподавателем, то, решив контрольную работу, или поступая в университет, сдав письменный экзамен, он надеется получить хорошую отметку. Для этого у него есть все основания. И всё же он надеется на справедливость преподавателей, на то, что знания были применены правильно, на то, что он не сделал ошибки. Надежда (или часто используемое слово „упование") есть ожидание с целью получить желаемый результат согласно сделанных дел.

Если мы правильно усвоили знания, которые получили у Господа через Библию, если мы живём, используя эти знания, и не подменяем, не искажаем, не пренебрегаем ими, то можем надеяться (ожидать), что Бог обязательно ответит нам согласно своих обещаний. Он не пренебрежёт нами, нашими молитвами. Он праведен и никогда не забывает о своих обещаниях. Чем же проверяются правильная вера и правильная надежда?

**ЛЮБОВЬ!** Так апостол Павел пишет нам в I-Коринфянам 13:13: „А теперь пребывают сии три: вера, надежда, любовь, но любовь из них больше".

„Бог есть любовь" – учит нас Иисус через апостола Иоанна. Значит, цель человеческой жизни – это Бог, сущность которого любить нас. Если мы, его дети и прилежные ученики, то в нас должна умножаться любовь к Богу и друг к другу. Мало того, истинно верующий способен любить даже врагов, прощать, быть милосердным даже к тем, кто гонит, обижает, не понимает его. Любовь – цель, результат нашей жизни. Если в вашем сердце не умножается любовь к Богу и всем без исключения людям, то в вас неправильная вера и вам не на что надеяться. Если в нас есть обида, непрощение, злоба, если мы не можем и не хотим понимать других, если нас не притягивает слово Божие и его истины, нет желания молиться, благодарить Бога за всё, что происходит в нашей жизни, то ответ очевиден – в нас неправильная вера, так как результат веры – Бог, любовь! Еще раз обратитесь к последовательности слов „вера, надежда, любовь". Сначала правильная вера, затем ожидание в терпении, а затем любовь – вершина совершенства, смысл жизни, цель на земле и в вечности.

Всех вам Божиих благословений!

**С любовью к Вам – священнослужитель Ивацевичской Церкви „Рождества Христова" КОНСТАНТИН.**

**(Продолжение следует).**

# ЛУННЫЙ КАЛЕНДАРЬ ОГОРОДНИКА И САДОВОДА

*СЕНТЯБРЬ*

| | |
|---|---|
| *Дни, неблагоприятные для сева и посадки любой культуры* | *10, 13, 14, 16, 24, 26-28* |
| ***Благоприятные дни*** | |
| ***Сев, посадка*** | |
| *Земляники* | *8, 9, 21-23, 25* |
| *Чеснока под зиму* | *7-9, 11* |
| *Петрушки и сельдерея на зелень* | *3-7, 15* |
| *Редиса* | *19, 20, 23, 29* |
| *Плодовых и ягодных культур* | *6-9, 11, 12* |
| *Роз, акаций и других цветущих деревьев и кустов* | *9, 11, 12* |
| ***Уборка*** | |
| *Картофеля для длительного хранения* | *17, 21, 26* |
| *свежего потребления* | *11-14, 17* |
| *Свеклы, репы, редьки и моркови* | *21,26* |
| *Яблок, груш, слив, крыжовника* | *8, 11, 12, 18, 19, 26-28* |
| *Помидоров и огурцов* | *18, 19, 26, 27* |
| *Прополка и уничтожение вредителей на всех культурах, опырскивание их против вредителей и болезней* | *10, 13, 14, 16, 24,, 26-28* |
| *Полив[illegible] и подкормка всех культур* | *6, 7, 15, 24, 25* |
| *Заготовка соков, консервирование плодов и ягод, квашение капусты* | *19, 20, 23, 24, 26, 27* |

● ВЫХАДНЫ ДЗЕНЬ

# СВЯТА НА ВЯСКОВАЙ ВУЛІЦЫ

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Усе ўрачыстасці праходзілі ў цэнтры вёскі Аляксейкі на мурожнай пляцоўцы ля мясцовай школы. Перад жыхарамі выступілі настаўніца Л. М. Дылюк, старэйшая жыхарка вёскі Н. М. Шыш, ветэран вайны і працы В. Р. Куіс. Яны гаварылі аб мінулым і сённяшнім дні свайго сяла, аб вясковых працаўніках, ветэранах вайны і працы.

Парадавалі аляксейкаўцаў сваім мастацтвам самадзейныя артысты са Стаек, Гошчава і пасёлка Зялёны Бор.

Падведзены вынікі конкурсу на лепшы сельскі двор. Пераможцамі названы К. Ф. Сіткевіч, В. Р. Куіс і Н. К. Куіс, Ю. А. Давідчык і М. Ф. Давідчык. Кожны гаспадар атрымаў прэмію ў суме сто тысяч рублёў. На дамах гэтых вяскоўцаў будзе прамацавана шыльда „Двор высокай санітарнай культуры".

Праводзілася таксама выстава вырабаў народных умельцаў (дываны, вышыўкі).

Свята закончылася гульнямі і забавамі.

**С. РЫГОРАЎ.**

● ЗДАРЭННІ

# ахвяра аўральшчыны

Аўральшчына ў высечцы лесу, які пацярпеў ад чэрвеньскага ўрагану, прынесла першую ахвяру. У целяханскім лесе загінуў пенсіянер з Кобрынскага раёна Яўген Пятровіч Несцярук.

Пажылы ляснік Кобрынскага лясніцтва паехаў на лесапавал у складзе брыгады, сфарміраванай калгасам імя Суворава. За працу з ім гаспадарка павінна была разлічыцца асноўнай для гэтага часу валютай – збожжам новага ўраджаю.

Непрафесійны лесаруб Яўген Пятровіч зрэшты хоць умеў трымаць у руках бензапілу. Яшчэ некаторыя з 2093 чалавек, што працуюць на лесапавале ў целяханскай зоне, прайшлі вучобу на тэрміновых курсах, арганізаваных у Барысаўскім ПТВ. Абсалютная ж большасць у паўпрымусовым парадку адправіліся на расчыстку, як гаворыцца, з нуля.

Цікава, што многія спецыялісты не бачаць сэнсу ў аўральнай высечцы шматгектарных участкаў лесу, на якіх намераны ў лічаныя тыдні нарыхтаваць амаль гадавую для вобласці норму – 386 тысяч кубаметраў драўніны. Справа ў тым, што не менш чым у трэці целяханскіх лясоў слаба пашкоджана карнявая сістэма, з якой дрэвы могуць прастаяць не тое што год – гады! Але загадана сячы – і ляцяць трэскі. Збываецца нарыхтаваная тут драўніна па амаль бросавай цане – добрага пакупніка шукаць няма калі, трэба далей угрызацца ў лясныя завалы. Пра якасць гаварыць не варта. Калі ў славутых сваімі ляснымі ландшафтамі краінах Скандынавіі лесарубаў рыхтуюць не менш чым два гады, то ў целяханскую зону з-за адсутнасці спецыялістаў кідаецца голая рабсіла – людзей па разнарадцы прысылаюць 245 арганізацый. Гэтыя людзі ў параўнанні з загінуўшым леснікам рызыкуюць куды больш.

А загінуў Яўген Пятровіч Несцярук пры спільванні сасны. Трэба выкарыстоўваць ланцуг, якім, згодна тэхніцы бяспекі, вальшчыкі павінны абвязваць пілуемае дрэва, каб яно не дало прадольнай трэшчыны і не ўпала заўчасна. Аднак ланцуга ў лесніка Несцярука не было. На такога кшталту дробязі ўлады грошай не маюць.

**І. ЛАПАТАЧКІН.**

● СТОП-КАДР



*Колодец, колодец,*
*дай воды напиться,*
*Колодец, колодец,*
*дай счастья глоток...*

***Фотоэтюд А. ГАНЧУКА.***




Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 4 верасня ў 14.00.

Заснавальнікі: У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас". Тэлефон 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

*Тыраж 1.200 экз.*
*Заказ № 2050.*